**Кожны выпісаны экземпляр “Настаўніцкай газеты” — гэта яшчэ адзін голас за стварэнне ў Беларусі нацыянальнай сістэмы адукацыі, за сацыяльную абароненасць педагогаў**

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №48 (4406) СУБОТА, 4 чэрвеня 1994 года | Кошт па падпісцы — 20 руб., у розніцу — 100 руб.

## НГ-ІНФАРМ

ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-ЦЭНТР МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ

### Аб парадку ўсынаўлення

Міністэрствам адукацыі распрацаваны нарматыўныя акты “Аб парадку ўсынаўлення дзяцей-грамадзян Рэспублікі Беларусь і ўстанаўлення апекі (папячыцельства) над імі замежнымі грамадзянамі” і “Аб органах аховы дзяцінства ў Рэспубліцы Беларусь”, якія зараз узгадняюцца з зацікаўленымі міністэрствамі, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам.

### ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

З 31 мая ў аздараўленчым летніку Зубраня адкрылася змена для лаўрэатаў Рэспубліканскага мастацкага фестывалю выхаванцаў дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў і спецыяльных школ “Вясёлкавы карагод”. Пераможцы фестывалю будуць не толькі адпачываць у маляўнічым месцы нашай Рэспублікі, але і выступяць са справаздачнымі канцэртамі, прымуць удзел у выніковым гала-канцэрце.

* * *

2—3 чэрвеня ў Полацкім дзяржаўным універсітэце адбылася Рэспубліканская канферэнцыя “Метады рэгулявання фінансавых узаемаадносін ва ўмовах пераходу да рынку”.

* * *

З 6 па 25 чэрвеня на факультэце кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы ІПК кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі працуюць курсы для прарэктараў па выхаваўчай рабоце, дзе будуць абмяркоўвацца праблемы сацыяльнага парадку, а менавіта: арганізацыя выхаваўчай работы студэнцкай моладзі ў сучасных умовах, асаблівасці, формы, метады і сродкі яе правядзення, вырашэнне вострых сацыяльна-эканамічных праблем студэнтаў, студэнцкіх сямей, уладкаванне іх паўсядзённага жыцця і быту. Арганізуецца панарама абмену вопытам, праводзяцца справавыя і арганізацыйна-дзейнасныя гульні, мэтавыя абмеркаванні.

* * *

9—10 чэрвеня ў Нацыянальным Інстытуце гуманітарных навук выкладчыкі гісторыі ПТВ і ССНУ збяруцца на семінар-нараду па надзённых праблемах гістарычнай адукацыі. Удзельнікі абмяркуюць пытанні пераходу на новы змест гістарычнай адукацыі ў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных установах Рэспублікі Беларусь.

* * *

14 чэрвеня ў Рэспубліканскім Інстытуце прафесійнай адукацыі адбудзецца семінар-нарада намеснікаў начальнікаў упраўленняў адукацыі аблгарвыканкамаў і загадчыкаў метадычных кабінетаў прафтэхадукацыі па праблемах метадычнага забеспячэння прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў.

14—15 чэрвеня на базе Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта адбудзецца Рэспубліканская канферэнцыя “Камп’ютэрныя праграмы ў выкладанні беларускай і замежных моў”.

* * *

15—16 чэрвеня на базе шэрагу прафесійна-тэхнічных вучылішчаў і спецыяльных школ-інтэрнатаў Мінска пройдзе рэспубліканскі семінар дырэктараў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў па пытаннях прафесійнай адукацыі дзяцей-інвалідаў і дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця.

* * *

На аўтарскіх курсах прафесара Л.А.Мурынай, што праводзяцца на факультэце кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ ІПКІПКРСА з 20 чэрвеня па 2 ліпеня, пойдзе зацікаўленая размова аб змесце выкладання курса “Рыторыкі” ў 10—11 класах.

Мэта курсаў — дапамагчы настаўнікам авалодаць майстэрствам выкладання рыторыкі як навукі; удасканаленне методыкі. Слухачы атрымаюць дыдактычны матэрыял па прадмеце.

* * *

21—22 чэрвеня ў Мазырскім дзяржаўным педагагічным інстытуце пройдзе Рэспубліканская канферэнцыя “Беларуская пачатковая школа: праблемы і перспектывы развіцця”.

28 чэрвеня — 2 ліпеня на базе Беларускага дзяржаўнага універсітэта пройдзе Міжнародная канферэнцыя “Прымяненне лазераў у навуках аб жыцці”.

Віктар ІЎЧАНКАЎ,
вядучы эксперт упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця.





### ДЗЯКУЙ ГРАФУ. І НЕ ТОЛЬКІ ЯМУ

Пабудаваў граф Старшынскі ў краі блакітных азёраў у пасёлку Камарова Мядзельскага раёна сабе дом. Загадаў стаўні выкапаць ды парк разбіць. Вось толькі, кажуць, не частым госцем быў тут — справы дзяржаўныя ўсё больш у Варшаве жыць вымушалі.

(Заканчэнне на 2-й стар.).



КОНКУРСЫ

### Аўтар лепшага буквара — Анатоль Клышка

**Зацверджаны вынікі конкурсу па стварэнні беларускага нацыянальнага буквара.**

Згодна з пастановай калегій Міністэрства адукацыі і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь “Аб правядзенні конкурсу па стварэнні беларускага нацыянальнага буквара” ад 31 снежня 1991г. №54/8 быў аб’яўлены адкрыты конкурс па стварэнні новага буквара.

У адпаведнасці з умовамі конкурсу паступілі 4 рукапісы:

Буквар №1 пад дэвізам “Люди перестают мыслить, когда перестают читать”;

Буквар №2 пад дэвізам “Все начинается с детства”;

Буквар №3 пад дэвізам “Школа радасці”;

Буквар №4 пад дэвізам “Раніца”.

Журы падвяло вынікі конкурсу і прызнала пераможцамі рукапісы пад дэвізамі:

Буквар “Раніца” аўтара А.К.Клышкі — першая прэмія.

Буквар “Школа радасці” аўтара Е.Г.Шылец — другая прэмія.

Першая прэмія ў памеры 600000 рублёў прысуджана Анатолю Клышку, другая — у памеры 450000 рублёў — Еўдакіі Шылец.

Навукова-метадычнаму цэнтру навучальнай кнігі і сродкаў навучання, выдавецтву “Народная асвета” даручана падрыхтаваць рукапіс пад дэвізам “Раніца” А.К.Клышкі ў якасці буквара да 1996-97 навучальнага года.

Рукапіс пад дэвізам “Школа радасці” Е.Г.Шылец вырашана мэтазгодным выдаць у якасці паралельнага падручніка да 1996-97 навучальнага года.

## НГ-ІНФАРМ

### Тэлеграма ў нумар

Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў віншуе ўсіх настаўнікаў школ і педагогаў пазашкольных устаноў з днём аховы навакольнага асяроддзя!

1995 год аб’яўлены Саветам Еўропы “Еўрапейскім годам аховы прыроды”. Давайце аб’яднаем нашы намаганні ў дасягненні гармоніі паміж чалавекам і прыродай, навучым нашых дзяцей беражліва і паважліва адносіцца да ўсяго жывога, што іх акружае.

Жадаем усім, хто будзе займацца гэтай пачэснай справай, поспехаў і здароўя, аптымізму і веры ў тое, што мы робім.

Кожны з нас павінен прыняць усю паўнату адказнасці за захаванне жыцця на Зямлі.

РЭСПУБЛІКАНСКІ ЭКАЛАГІЧНЫ ЦЭНТР

ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

### СВЯТА СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ

**Сёння ў Полацку пачынаюцца ўрачыстасці, прысвечаныя памяці славутай заступніцы Беларусі, знакамітай асветніцы і рэфарматарцы нацыянальнай культуры і мовы святой Ефрасінні Полацкай.**

На пазачарговай канферэнцыі Усебеларускага жаночага фонду Ефрасінні Полацкай, прэзідэнтам якой з’яўляецца беларуская пісьменніца Валянціна Коўтун, прынята рашэнне ўтварыць Міжнародную Прэмію Святой Ефрасінні. Як растлумачыла Валянціна Міхайлаўна, гэтай прэміяй будуць узнагароджвацца асобныя дзеячы і грамадскія арганізацыі за асабліва значныя поспехі ў галіне развіцця культуры, навукі, духоўнай асветы і маладзёжнага руху, цесна звязаныя з духоўным адраджэннем беларускага народа.

Знакамітыя пісьменнікі, мастакі, кампазітары і навукоўцы, святары Беларусі, а таксама вядомыя асобы далёкага і блізкага замежжа ўваходзяць у склад Камітэта і кансультацыйнай Камісіі па прысуджэнні прэміі.

Заўтра у Агульнанародны дзень Святой Ефрасінні такія прэміі будуць уручаны тым, хто сваёй працай садзейнічае развіццю нацыянальнай літаратуры, культуры, навукі, хрысціянскіх традыцый.

Пройдзе святочная літургія з удзелам мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха усяе Беларусі Філарэта. Адбудзецца дабрачынны святочны канцэрт Ефрасінні Полацкай з удзелам лепшых мастацкіх калектываў краіны і камернага хору з Германіі.

На свята ў Полацк прыехалі знакамітыя людзі Беларусі, далёкага і блізкага замежжа дзеля ўсенароднага яднання святлом святой Ефрасінні.

Святлана ХОРСУН.



НАРАДЫ

## НЕ БУДЗЕМ МЫ СТАЯЦЬ НА РАЗДАРОЖЖЫ?

### ШКОЛА ЧАКАЕ НОВЫХ ДАПАМОЖНІКАЎ І РАСПРАЦОВАК ПА ПРАБЛЕМАХ ВЫХАВАННЯ

Жыццё, як сказаў адзін мудрэц, самая лепшая кніга. Аднак сёння яно падкінула нам безліч праблем, перад якімі мы, дарослыя, разгубіліся. Катастрафічна расце дзіцячая злачыннасць. У партрэце сучаснага школьніка на першым плане такія рысы, як эгаізм, скваплівасць, жорсткасць і грубасць. Сёння, мабыць, як нікому іншаму, цяжэй за ўсіх настаўніку. Жыццё актыўна процідзейнічае супрацьь яго прафесіяналізму, шчырых намераў, намаганняў. Што сёння можа ўзяць з яго настаўнік за рацыянальнае, карыснае? Ці ёсць такая кніга, якая б магла б стаць настольнай для настаўніка — выхавацеля ў сённяшніх умовах працы?

Размова пра гэта наспела даўно, сцвярджалі ўсе ўдзельнікі нарады, якая адбылася днямі ў Навукова-метадычным Цэнтры навучальнай кнігі і сродкаў навучання. Тэма размовы была вызначана так: “Павышэнне эфектыўнасці навукова-метадычных распрацовак па праблемах выхавання і іх выкарыстанне ў рабоце навучальна-выхаваўчых устаноў”. У нарадзе прымалі ўдзел загадчыкі кафедраў педагогікі, псіхалогіі, сацыяльнага выхавання, педагогікі і методыкі пачатковага навучання, тэорыі і методыкі выхавання дзесяці вышэйшых навучальных устаноў Рэспублікі, а таксама інстытутаў удасканалення настаўнікаў.

— Змены ў грамадска-палітычным жыцці патрабуюць новых прыярытэтаў у змесце выхавання, у адносінах да асобы, калектыву, сям’і, — сказаў ва уступным слове намеснік міністра адукацыі Георгій Бутрым. — Да вырашэння праблем метадычнага забеспячэння сістэмы выхавання ва ўмовах нацыянальнага адраджэння, суверэнітэту, рыначных зносін патрэбна прыцягнуць вучоных, метадыстаў і арганізатараў. Сваё важкае слова тут павінна сказаць навука, патрэбны аналіз і даследаванне перадавой практыкі. Менавіта дзеля гэтага мы і сабраліся.

Што мы маем сёння ў нашых бібліятэках? Што маюць “на руках” настаўнікі? Ідэалагічна праграмы і канцэпцыі па выхаванні вытрыманы, а падручнікаў — няма. А тыя, што ёсць, сказаў нехта на нарадзе, патрэбна адправіць у архіў. Ці так гэта? Няўжо састарэла і прыйшла ў небыт уся літаратура, якой вучонымі і практыкамі было напісана нямала?

Што сёння могуць прапанаваць кафедры ВНУ ў якасці навучальна-метадычных дапаможнікаў класнаму кіраўніку школы, тэхнікума або вучылішча? Што параяць практычнаму псіхолагу, сацыяльнаму педагогу? Як у сённяшніх умовах наладзіць і пашырыць выпуск літаратуры і іншых сродкаў навучання навукова-пазнавальнага, развіваючага характару для выкарыстання ў пазакласнай рабоце і ў вольны ад вучобы час?

Лабараторыя выхаваўчай работы Навукова-метадычнага Цэнтра навучальнай кнігі і сродкаў навучання зрабіла аналіз бібліятэчнай літаратуры па напрамках выхаваўчай работы ў навуковых і пазашкольных установах. З вынікамі работы лабараторыі ўдзельнікаў нарады пазнаёміла метадыст Цэнтра Соф’я Русак.

Высвятляецца такі малюнак. Напрыклад, настаўнік пачатковых класаў не забяспечаны матэрыяламі для пазакласнай работы. У Рэспубліцы амаль не выдавалася літаратура па гуртковай рабоце ў пазашкольных установах, у прыватнасці, па турызму і краязнаўству, тэхнічнай творчасці, развіцці народных мастацкіх рамёстваў. Зусім не распрацавана педагогіка лета, канікулаў, вольнага часу дзяцей, арганізацыі сямейнага адпачынку.

Цэнтрам робяцца першыя крокі, каб выправіць становішча, якое склалася. У дзяржаўную праграму “Навучальная кніга” да 2000 года ўнесена 118 пазіцый па выданню “выхаваўчай” літаратуры. Амаль палова — 53 пазіцыі — пакуль не забяспечаны аўтарамі. Складзены тыпавы пералік для выхаваўчай работы ў агульнаадукацыйнай школе. З кастрычніка мінулага года паступіла толькі 30 рукапісаў. Восем рукапісаў накіраваны ў выдавецтве, 4 падрыхтаваны да друку, 6 адхілены па розных прычынах. Восем планаў-праспектаў паступіла ад аўтараў па тэматыцы выхаваўчай работы, а гэта — патэнцыяльныя прэтэндэнты на ўключэнне ў дзяржзаказ па выданні у 1996 годзе.

Да новага навучальнага года будуць надрукаваны зацверджаныя Міністэрствам адукацыі 67 праграм, распрацаваныя Нацыянальным інстытутам адукацыі разам з практыкамі.

Зараз лабараторыя вядзе работу на падборы рэдакцыйных калегій, аўтараў, аўтарскіх калектываў ці, як было вобразна сказана, ідзе пошук сваіх “зорак” тэорыі і практыкі выхавання. Але ж іх трэба не толькі знайсці, але і вырасціць. Словам, наперадзе вялікая і карпатлівая работа.

Мяркуючы па актыўнасці ўдзельнікаў нарады, справа павінна зрушыцца з месца. Ужо сёння многім з іх ёсць і было што прапанаваць у сэнсе актуальнасці, многаварыянтнасці, выкарыстання тэхнічнай аснашчанасці, уліку дасягненняў сусветнай навукі і практыкі па праблемах псіхалогіі выхавання.

Будзем спадзявацца, што ўзнятая на нарадзе праблема не застанецца пустой размовай. А ўсіх, каго яна хвалюе, каму па ёй баліць душа, у тым ліку і ўдзельнікаў нарады, мы просім прыняць удзел у дыскусіі, якую мяркуем распачаць на старонках нашай газеты. Лічу, што яна дапаможа настаўніку, які сёння на раздарожжы.

У нарадзе прынялі ўдзел дырэктар Нацыянальнага Інстытута адукацыі Уладзімір Валадзько, дырэктар Навукова-метадычнага Цэнтра навучальнай кнігі і сродкаў выхавання Максім Круглей, загадчык кафедры сацыяльных праблем выхавання Інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Уладзімір Кабуш.

Святлана БЕНЬ.

# НГ-ІНФАРМ

ДА 50-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

## ГІРЛЯНДА ПАМЯЦІ

**Ва ўсіх навучальных групах Вілейскага ПТВ-200 прайшлі адкрытыя выхаваўчыя гадзіны "Зямля пад белымі крыламі", якія прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Пад знакам слаўнай гадавіны тут праводзіцца і шмат іншых мерапрыемстваў. Некалькі раней у выхаваўчы час тут адбыліся гутаркі пад назвай "Гэтых дзён не змоўкне слава", прайшлі вечары адпачынку, агляд мастацкай самадзейнасці. Фальклорная група рэгулярна выязджае ў школы раёна. Навучэнцы ўсклалі гірлянду памяці з жывых кветак да помніка ахвярам фашызму, што знаходзіцца ў вёсцы Порса. У 1943 годзе тут пахавана 150 вязняў Вілейскай турмы, спаленых зажыва.

У першай палове чэрвеня на Вішнеўскім возеры вучылішча правядзе трохдзённы турысцкі злёт, галоўным лейтматывам якога таксама будзе ўшанаванне герояў мінулай вайны.

Наш кар.

АЎТАРСКІЯ КУРСЫ

## Да дасканаласці майстэрства

**Гродзенскім абласным інстытутам удасканалення настаўнікаў упершыню былі арганізаваны аўтарскія курсы намеснікаў дырэктараў ПТВ па навучальнай рабоце.**

Курсы праводзіліся на базе ПТВ-127 Гродна. Шмат карыснага для сваёй работы мы ўзялі ў час гэтых курсаў. Кожны дзень вучобы быў не толькі інфармацыйна насычаны, змястоўны, але і цікавы па форме падачы: сустрэча з дырэктарам вучылішча А.П.Зарэцкім, знаёмства з базай вучылішча, навучальнымі кабінетамі, лекцыі, выставы раздатачнага і дыдактычнага матэрыялаў, адкрытыя ўрокі і іх аналіз, выступленні вопытных выкладчыкаў. А яшчэ мы пабывалі ў ПТВ-49, 119.

Марыя Уладзіміраўна Данілковіч, намеснік дырэктара па навучальнай рабоце ПТВ-127, працуе ў вучылішчы з дня яго заснавання. Творчы, умелы кіраўнік, з багатым жыццёвым і прафесійным вопытам, яна зыходзіць у сваёй практычнай дзейнасці з таго, што паспяховае дасягненне асноўных мэт навучання і выхавання вучняў магчыма толькі пры дакладнай арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу.

У вучылішчы адпрацавана дакладная сістэма планавання, на аснову якой бярэцца паглыбленая праца па адзінай агульнавучылішчнай праблеме. Глыбока прадумана, ахопліваючы ўсе бакі навучальна-выхаваўчага працэсу, плануе М.У.Данілковіч сваю работу. План складаецца на год, на месяц і на кожны дзень. Асабліва канкрэтна распрацоўваюцца раздзелы, якія прадугледжваюць кантроль за якасцю ведаў вучняў па кожным прадмеце і індывідуальную работу з выкладчыкамі па павышэнні іх педагагічнага майстэрства.

Марыя Уладзіміраўна ўмела дапамагае калегам пакарыць сваю педагагічную вышыню. Адным — зрабіць першыя крокі ў педагогіцы, зразумець раней невядомае, набыць упэўненасць у сваіх сілах. Другім — падняцца да дасканаласці прафмайстэрства. Нам давялося ўбачыць, як выкладчыкі паказвалі паўрочныя планы яшчэ не праведзеных урокаў, паведамлялі тэмы і мэты, дзяліліся сваімі меркаваннямі аб метадах вядзення ўрока, выбары сродкаў навучання.

Мы пабывалі на адкрытых уроках фізікі, матэматыкі, рускай літаратуры, фізкультуры. Для ўсіх урокаў характэрна павага да навучэнцаў, уважлівае стаўленне да іх думкі. Выкладчыкі сапраўды вучаць навучэнцаў вучыцца. Яны не проста даюць ім суму ведаў, а вучаць думаць, самастойна здабываць інфармацыю, рабіць лагічныя вывады.

Пры аналізе ўрокаў мы ўбачылі, што Марыя Уладзіміраўна ўдзяляе вялікую ўвагу аналізу наведаных урокаў: рыхтуючыся да субяседавання з выкладчыкам, яна правярае журналы тэарэтычнага навучання, прагледвае сшыткі навучэнцаў, перспектыўна-тэматычнае планаванне. Пры аналізе ўрока звяртае асаблівую ўвагу на яго прафесійную і выхаваўчую накіраванасць. Марыя Уладзіміраўна вучыць выкладчыкаў аналізаваць свае ўрокі. Сістэматычна праводзіць інструктыўна-метадычныя нарады, на якіх вырашаюцца аператыўныя пытанні навучальна-выхаваўчага працэсу.

У выніку дакладна арганізаванай работы дырэктара па навучальнай рабоце ў ПТВ-127 склаўся творчы калектыў выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання.

...Курсы нашы заканчваліся, а ў вучылішчы пачынаўся тыдзень педагагічнага майстэрства.

Пры падвядзенні вынікаў нашай работы ўсе былі аднадушныя: трэба планаваць і ў далейшым праводзіць аўтарскія курсы.

А.САЛЕЙ,
намеснік дырэктара па навучальнай рабоце Скідзельскага ПТВ-199.









## ДЗЯКУЙ ГРАФУ. І НЕ ТОЛЬКІ ЯМУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Але вось неяк летам 1940 года прыйшлі сюды незнаёмыя людзі і, паводле загада Міністэрства земляробства, адкрылі ў сядзібе школу трактарыстаў, вядомую зараз як старэйшае ў рэспубліцы Саірскае ПТВ №207 механізацыі сельскай гаспадаркі.

Многа вады ўцякло з таго часу. Абмялелі сажалкі, многае змянілася на іх берагах. Побач з домам графа вырас новы корпус вучылішча, паявіліся майстэрні, машынны двор, ферма, падсобныя памяшканні. У апошнія гады з'явіўся пасёлак з добраўпарадкаваных катэджаў, у якіх цяпер жывуць многія сем'і работнікаў вучылішча. А сёння гэта 21 выкладчык і 26 майстроў вытворчага навучання. Многія з іх — былыя выпускнікі вучылішча. Яны вучаць пасланцоў Мядзельскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў такім прафесіям, як трактарыст-машыніст, вадзіцель аўтамашын, аўтаслесар, электраманцёр. Дзяўчаты з энтузіязмам асвойваюць спецыяльнасць закройшчыцы-швачкі, якая заўсёды карыстаецца павагай і попытам у вёсцы.

Штогод 150 — 160 чалавек пакідаюць сцены вучылішча, уступаюць у самастойнае жыццё, авалодаўшы тут неабходнымі прафесійнымі навыкамі.

Палі трох суседніх раёнаў у асноўным апрацоўваюць былыя "фабзайцы" з 207-га вучылішча. Дзяўчаты працуюць у КБА, падсобных цэхах калгасаў. Многія ўладкоўваюцца на працу ў Маладзечна. І ўсіх іх праводзіць у новае, невядомае жыццё стары графскі дом, які стаў цяпер родным і для іх.

Аднак няўмольны час творыць сваю работу, і дом паступова губляе былую прыгажосць. Вось і вырашыла кіраўніцтва вучылішча рэстаўрыраваць гмах, вярнуць яму ранейшы выгляд. Праект падрыхтаваны ўжо. Але ці знойдуцца сродкі дзеля ажыццяўлення гэтай добрай справы?

Юрый БОНДАРАЎ,
фота аўтара.

АДГУКНІЦЕСЯ!

## Па голасу сэрца

Прайшло 40 гадоў, як мы закончылі вельмі аўтарытэтную ў той час навучальную ўстанову — Мазырскае педвучылішча. Радзіма нам уручыла пуцёўкі ў жыццё, даверыла вялікую справу выхавання і навучання будучых грамадзян. Мы раз'ехаліся ва ўсе куткі Бацькаўшчыны, каб выканаць свой грамадзянскі і прафесійны абавязак: сеяць разумнае, добрае, вечнае.

І вось мы ўжо сталі дзядулямі і бабулямі, але многія і сёння яшчэ плённа працуюць. Мы далі пуцёўкі ў жыццё дзесяткам тысяч сваіх выпускнікоў. Вельмі добра будзе, калі мы сустрэнемся праз 40 гадоў. Нам жа ёсць пра што расказаць.

Я прапаную, паважаныя мае аднакурснікі, стварыць арганізацыйны камітэт, які б больш паспяхова займаўся пытаннямі арганізацыі такой сустрэчы.

З павагаю да Вас
настаўнік роднай мовы і літаратуры ЛЯГУН Павел Давыдавіч. Мой адрас: 247600, г. Хойнікі, вул. Катоўскага, 90, тэл. 2-27-16.

З НАГОДЫ

## Экалагічны профіль

**Заўтра адзначаецца Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя. Пасля аварыі на ЧАЭС гэта праблема набыла для Беларусі асаблівую вастрыню. Ці адчуюць яе сённяшнія школьнікі? Што трэба зрабіць для гэтага? Давайце паслухаем Уладзіміра Разумовіча, дырэктара Баранавіцкай экалагічнай гімназіі.**

Вось некаторыя асноўныя прынцыпы экалагічнай адукацыі і выхавання, якія нам бачацца.

Даступнасць. Мы разглядаем яе ў двух аспектах: па-першае, як магчымасць любому школьніку атрымаць асновы экалагічных ведаў, паколькі гімназія не з'яўляецца элітарнай навучальнай установай; па-другое, ступень складанасці прапануемых на ўроках і ў пазаўрочнай дзейнасці матэрыялаў адэкватна ўзроўню інтэлектуальнага развіцця школьнікаў усіх узроставых груп.

Бесперапыннасць. Экалагічны матэрыял вывучаецца на працягу ўсіх гадоў навучання ў гімназіі. Пры гэтым захоўваецца пераемнасць і паслядоўнасць вывучаемых тэм у адпаведнасці з ростам ступені цяжкасці і складанасці прапаноўваемых асноў навук.

Узаемазалежнасць. У навучальных праграмах усіх ступеняў адукацыі ўзмоцнена роля прадметаў, якія тычацца навакольнага асяроддзя і яго аховы. Ключавымі дысцыплінамі ў гэтай галіне з'яўляюцца біялогія, геаграфія, хімія і фізіка, а ўсе іншыя прадметы садзейнічаюць паглыбленню вывучэння экалогіі і праблем аховы навакольнага асяроддзя.

Практычная накіраванасць (прынцып карыснасці). Тэарэтычныя веды, набытыя ў сценах гімназіі, маюць прыкладное значэнне не толькі ў прафесійнай дзейнасці чалавека, але садзейнічаюць таксама і яго выжыванню ў любых бытавых і экстрэмальных умовах.

Мы ўзялі падрыхтоўку ўсіх удзельнікаў навучальна-выхаваўчага працэсу (настаўнікаў, вучняў, бацькоў) да працы ў новых умовах з тым, каб захаваць спрыяльны псіхалагічны клімат у калектыве аднадумцаў. Асаблівую ўвагу звярнулі на падрыхтоўку калектыву да стварэння гімназіі, паколькі такое рашэнне не магло быць прынята ў дырэктарскім кабінеце, ды і прывяло б яно да канфліктаў: з групай настаўнікаў, якія па розных прычынах могуць аказацца непадрыхтаванымі да работы ў гімназіі; з вучнямі і іх бацькамі, якія будуць незадаволены магчымымі дадатковымі нагрузкамі і выбраным профілем навучання.

Арганізавалі апераджальнае навучанне кіраўнікоў школы, настаўнікаў, якія вядуць прадметы экалагічнага цыкла, і настаўнікаў пачатковых класаў. Перагледзелі арганізацыйныя структуры кіравання, іх функцыі і механізмы. У штатным раскладзе з'явіліся новыя пасады, характэрныя для экалагічнай накіраванасці гімназіі: намеснік дырэктара па навукова-метадычнай рабоце (галоўны эколаг) і загадчык станцыі кліматычнага маніторынга (метэастанцыі).

Створаны творчыя мікрагрупы для распрацоўкі новых навучальных планаў і праграм па экалагічным навучанні і выхаванні. Вызначаны кампаненты экалагічнай культуры і ўзроўні экалагічнай свядомасці навучэнцаў.

Складаемыя экакультуры ўключаюць у сябе: навуковыя экалагічныя веды, навуковае экалагічнае мысленне, матывы экалагічных паводзін, грамадска-экалагічную актыўнасць, самаацэнку і самакантроль экалагічных паводзін у навакольным асяроддзі. Узроўні экалагічнай свядомасці павінны выявіцца ў інфармаванасці, зацікаўленасці, занепакоенасці; пераканананасці (матывацыі дзейнасці), дзейнасці (паводзінах у навакольным асяродку).

Неабходна адзначыць, што ўзроўні паказчыкаў экалагічнай выхаванасці вучняў распрацаваны з улікам розных узроставых груп: для 1 — 4, 5 — 7, 8 — 9, 10 — 11 класаў.

Трэба мець на ўвазе, што ў новай якасці мы закончылі толькі першы навучальны год.

ПАДЗЯЛЮСЯ З ВАМІ

## КВЗ? НЯМА ПРАБЛЕМ!

**Людзі, якія даўно не наведвалі школу, уяўляюць жыццё яе шэрым, сумным, будзённым. Што ж, можа дзе-небудзь яно і сапраўды такое. Але, на шчасце, такая характарыстыка не адносіцца да школ Фрунзенскага раёна сталіцы. Ужо некалькі год запар тут існуе цудоўная традыцыя праводзіць раённыя КВЗ.**

Напачатку здавалася, што ажыццявіць такую імпрэзу ў межах цэлага раёна будзе проста немагчыма. І добра, што такая думка не спраўдзілася. А ўсё таму, што за справу ўзяліся людзі, якія ў свой час не памыліліся ў выбары прафесіі. Да таго ж, гэтую ідэю падтрымалі і дырэктары школ, якія перадалі энергію свайго настаўніцкага сэрца дзецям.

Цёплае веснавое сонца не цікавіла нас, бо не хацелася пакідаць гасцінныя залы Дома культуры імя Кісялёва, хацелася яшчэ і яшчэ раз сустрэцца з сімпатычнымі, вясёлымі, знаходлівымі камандамі школ, якія падаравалі нам сапраўднае свята.

Прайшло ўжо некалькі дзён. А памяць бударажаць успаміны, хочацца падзяліцца з чытачамі нашай газеты сваімі думкамі і ўражаннямі.

У заключны трэці тур трапілі каманды: "Няма праблем" гімназіі №198, "Ваганты" школы №126, "Абанент 136" школы №136, якія перад гэтым прыклалі столькі намаганняў, што нават кампетэнтная камісія без вялікіх цяжкасцяў з поўнай адказнасцю прызнала за імі права заняць прызавыя месцы.

Перад змаганнем каманды з удзячнасцю прынялі прывітальнае слова і пажаданні каманды-пераможцы мінулага года — школы №136, якая ўступіла месца сваім паслядоўнікам — камандзе гімназіі №198.

Візітная картка гімназіі дакладна адпавядала як назве каманды, так і тым далейшым нумарам, якія яна прадстаўляла. Першапачатковая перамога ды актыўная падтрымка залы акрылілі гімназістаў. З гэтай нагоды было заканамерным і тое, што каманда ўпэўнена ўзяла напрамак на перамогу і ў другім конкурсе. Яна хутка арыентавалася і не толькі задавала сваім сапернікам надзённыя, з ноткамі жартаўлівасці, пытанні, але і давала трапныя адказы.

Цікава было назіраць за ўдзелам і каманды арганізатараў школ у "размінцы". Пэўна ж, гэтыя людзі маюць свой вопыт у падобнай справе, паколькі такіх здольнасцяў ад іх вымагае сама спецыфіка працы.

Было бачна, як цяжка даводзілася і капітанам каманд, бо на іх ускладалася індывідуальная адказнасць за лёс перамогі. Гэтая адказнасць значна большала, калі ім даводзілася паказваць сваю вынаходлівасць і смеласць пошуку без падтрымкі сяброў па камандзе. Менавіта падобную падтрымку, відаць, атрымала капітан каманды "Няма праблем" Таццяна Аляксеева, за якую хварэла добрая палова залы і падтрымлівала яе бадзёрым, актыўным скандзіраваннем. Хутчэй за ўсё, гэта атрымалася дзякуючы папярэднім перамогам капітана і яе каманды. Але хоць капітан трымаўся дастойна, усё ж-такі вопыт і жыццёвая практыка капітана каманды "Шкрабы" адыгралі сваю ролю: ён заняў прызавое месца. З павышаным хваляваннем як каманда, так і тыя, хто яе падтрымліваў, чакалі, калі журы аб'явіць агульны вынік за раней прадстаўленыя нумары. Трэба было бачыць шчаслівыя твары і ўсмешкі радасці ад таго, што гімназія лідзіруе і тут, што капітан каманды аказаўся на вышыні становішча і нікога не падвёў.

Але тут стаў зразумелым і той факт, што каманда мінулагодняй школы-пераможцы так проста тую славу, якая замацавалася за ёю, аддаваць не збіраецца. У чарговым конкурсе — рэклама спонсара — прадстаўнікі гэтай навучальнай установы паказалі не рэкламу, а рэкламны ролік. А вось калі на сцэну выйшла каманда "Няма праблем", то ўзнікла ўражанне, што перад табой выступаюць прафесійныя артысты з прафесійнай рэкламай.

Хоць і прайшло даволі часу пасля пачатку такога захапляючага відовішча, але многія здзівіліся, калі вядучыя аб'явілі апошні конкурс — хатняе заданне на тэму "Аб школьніку бедным закіньце слова". "Шкрабы" далі магчымасць пазнаёміцца не толькі са сваім вопытам выхавання школьнікаў, але і паказаць, наколькі яны могуць адстойваць іх інтарэсы. Прадстаўленая ў жартоўнай форме праграма стала своеасаблівай навукай на будучае для многіх.

Калі журы аб'яўляла вынікі, трэба было чуць тыя авацыі прысутных, што з уздымам успрынялі паведамленне пра перамогу каманды "Няма праблем". А якая іскрынка шчасця ў гэты момант засвяцілася ў вачах дырэктара гімназіі Людмілы Станіславаўны Аляксеевай! Вядома ж, гэта яе гімназісты, яе выхаванцы, а таму іх перамога — яе перамога.

Трэба ўспомніць і тых, без чыёй дапамогі свята магло б і не быць. Гэта спонсары: ВКП "Юнацтва", МВА "Гарызонт", сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Аптітэк", юрыдычная фірма "Салумэкс", фонд "Мы — дзецям", кааператыў "Санет".

Бывай, КВЗ! Мы яшчэ сустрэнемся!

І.БАРКОЎСКІ,
настаўнік мінскай гімназіі №198.



# НГ-ІНФАРМ

## ВЕСТКІ

### З ГРОДНІ...

Свой першы экзамен здалі больш як 500 вучняў адзінаццатых класаў школ Ленінскага раёна Гродні. У навучальна-вытворчых камбінатах яны атрымалі пасведчанні токараў, вадзіцеляў аўтамабіляў і іншых прафесій. Сярод новых спецыяльнасцяў — менеджэр, бармэн, аператар ЭВМ.

***

Амаль усе факультэты Гродзенскага дзяржуніверсітэта далі згоду, каб сярод іншых навучальных дысцыплін было і выяўленчае мастацтва. Асабліва з вялікім энтузіязмам за гэта выказваюцца матэматыкі і фізікі. А вось філолагі зацікаўленасці не праяўляюць...

***

У наступным навучальным годзе ў шасці школах абласнога цэнтра плануецца адкрыццё першых класаў з польскай мовай навучання. Пакуль ідзе набор дзяцей у гэтыя класы.

***

Пры Лідскім Доме культуры дзейнічае дзіцячы ансамбль эстраднага танца "Натхненне". На аглядзе-конкурсе юных талентаў горада "Хрустальны чаравічак" дэбютанты атрымалі перамогу.

***

У Баранавічах прайшоў рэспубліканскі конкурс навучэнцаў дзіцячых музычных школ па класу духавых інструментаў. У ліку пераможцаў па класу флейта — Яўген Мельнік са Смаргоні.

***

Нядаўна Дзятлаўскую школу-інтэрнат наведалі госці з Люксембурга, прадстаўнікі скаўцкага руху. Яны ўручылі дзецям падарункі. Была дасягнута дамоўленасць, што летам у Люксембург зноў на адпачынак прыедуць падлеткі з Дзятлава.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

### ...З ГОМЕЛЯ

Фальклорны гурток "Вясёлінка" створаны ў дзіцячым садзе №14 чатыры гады назад. Ён заўсёды радуе маленькіх гледачоў цікавымі выступамі. Музычны работнік В.Д.Шкурко і выхавацельніца В.П.Халюшкова шмат часу аддаюць нацыянальнаму адраджэнню, знаёмяць малышоў з народнымі абрадамі і традыцыямі.

***

Навабеліцкі Дом дзіцячай творчасці правёў выставу-справаздачу. Тут было многа малюнкаў, вышываных ручнікоў, мяккіх цацак, прыгожых пано, вырабаў з дрэва. Незвычайнае свята закончылася цікавымі конкурсамі, віктарынамі і дэманстрацыяй мод.

***

У сярэдняй школе №3 адбыўся злёт юных абаронцаў Айчыны, ветэранаў вайны і працы. Вучні іх віталі кветкамі, музыкай і песнямі. Удзельнікі злёту правялі ў школе "Урокі мужнасці".

***

Клуб "Да таямніц Прыроды" працуе на абласной станцыі юных турыстаў. Дзеці вывучаюць флору Беларусі, збіраюць насенне раслін, занесеных у Чырвоную кнігу, а затым высяваюць іх. Кіруе клубам інжынер-механік А.Л.Семянцоў.

***

Закончыліся заняткі ў школе міласэрнасці, якая была створана камітэтам Чырвонага Крыжа Савецкага раёна. Хлопчыкі і дзяўчынкі навучыліся аказваць першую медыцынскую дапамогу, наведалі Дом для састарэлых, расшырылі свае светаўспрыманне і павысілі культурны ўзровень.

***

На базе дзіцячага сада №27 дзейнічае новая выхаваўча-адукацыйная ўстанова "Спецяслі-сад-пачатковая школа". Сёння тут вучацца і выхоўваюцца дзеці з парушэннем зроку, постаці і алергетыкі. Дырэктар Л.М.Жалязнова лічыць, што дзецям у садку-школе будзе вельмі добра. Яны змогуць тут вучыцца да 4 класа, паралельна пройдуць належны курс аздараўлення і медыцынскага лячэння.

Ганна АТРОШЧАНКА.

## МОВА ЖЫВЕ

**На такую тэму прайшоў семінар у Горацкай гімназіі №1. У ім прынялі ўдзел настаўнікі пачатковых класаў школ горада і раёна. Яны пабывалі на занятках гуртка "Беларусазнаўства" ў 2"В" класе (настаўніца першай катэгорыі Г.А.Кісялёва), на ўроку ў пачатковых класах па новым прадмеце "Мая Радзіма Беларусь" (настаўнік вышэйшай катэгорыі В.Я.Дзятлікові).**

Затым настаўнікі гімназіі расказалі аб той рабоце, якая праводзіцца ў пачатковых класах па прывіцці любові да сваёй Радзімы і роднай мовы. Пачынаецца яна з паступлення вучняў у першы клас. У кожным з іх арганізаваны гурток "Беларусазнаўства", мэта якога — пазнаёміць дзяцей з беларускімі народнымі гульнямі, карагодамі, лічылкамі, паказаць прыгажосць роднай мовы і адначасова развіць творчыя здольнасці вучняў, іх памяць, замацаваць навыкі беларускага маўлення, даць элементарнае ўяўленне аб навакольным свеце праз гульні.

А ў 1 і 2 класах — гэта ў асноўным гульні, загадкі, скорагаворкі, прыказкі і прымаўкі, інсцэніраванне беларускіх казак, карагодныя звычаі, вясёлыя музычныя раніцнікі. Вытокі вялікай колькасці народных гульняў ляжаць у абрадавай паэзіі. Асабліва многа іх звязана з народным календаром.

Удзельнікі семінара прысутнічалі таксама на занятках гуртка ў 3 класе і на ўроку ў 4 "В" класе. Формы заняткаў былі самыя разнастайныя. А затым вучні і ўсе ўдзельнікі праводзімага мерапрыемства адправіліся ў вандроўку па гістарычным мінулым сваёй Радзімы — ад славянскіх плямёнаў праз Полацкае княства, Рэч Паспалітую, Вялікае княства Літоўскае да БССР і сучаснай Беларусі.

Г.ГРЫБАВА,
намеснік дырэктара Горацкай гімназіі №1 па пачатковых класах.

Супрацоўніцтва

## У ІНСТЫТУТ — ДАТЭРМІНОВА

**Трэці год некаторыя сярэднія школы Жлобіна супрацоўнічаюць з Гомельскім політэхнічным інстытутам.**

Сутнасць такога супрацоўніцтва заключаецца ў тым, што вышэйшая навучальная ўстанова пры дапамозе мясцовых настаўнікаў наладжвае для вучняў курсы па дадатковым вывучэнні фізікі і матэматыкі. Затым вучням прадастаўляецца магчымасць (у маі месяцы) здаваць экзамены і па іх выніках (яшчэ да атрымання атэстата аб сярэдняй адукацыі) быць залічаным на першы курс інстытута.

Па словах намесніка загадчыка Жлобінскага гарана М.Д.Саўкова, сёлета такую магчымасць выкарысталі больш дзесяці вучняў. Дзейсную дапамогу ім у падрыхтоўцы аказалі настаўніца матэматыкі сярэдняй школы №5 М.Д.Дацэнка і дырэктар сярэдняй школы №2 настаўнік фізікі У.Р.Бегуноў.

Мікалай ШУКАНАЎ,
супрацоўнік жлобінскай райгазеты "Новы дзень".

